Zareski. Nr. I4II.

---

Pola vjasna.

(apavjadanni.)

Minsk-1925god.

Der Frühling hat gezungen.

(Erzählingen)

Minsk 1925.

МАЛАДНЯК

№ 9

# ПЕЛА ВЯСНА



М. ЗАРЭЦКІ

№ 9 КНІЖНІЦА „МАЛАДНЯК“ № 9

М. ЗАРЭЦКІ

# ПЕЛА ВЯСНА

(АПАВЯДАНЬНІ)



ВЫДАНЬНЕ ЦБ МАЛАДНЯКА
МЕНСК—1925

## ПЕЛА ВЯСНА

Шумам шырокім шугала ў абшары. Песьню ліла непазбыўна-жывучую, сьмелую гордую песьню.

Пела вясна...

У шоламе гучным разьюшаных павадак гымнам расла, расьцьвітала магутная сьвежая сіла.

Расла, расьцьвітала. Гарнула цудоўным размахам пудліва-слухмянае сэрца, імкнула ў прасторы, віхурыла ўзьлётам шалёным.

Парываньнем дзівосным хмяліла душу, крамяніла волю сталёвым запалам.

Пела вясна...

Так сьмела і горда. Так радасна, шчыра.

Пералівала песьню ў дражліва-гарэзьлівы рогат. Сьмяялася звонка, задорна.

Над старым, струхнелым сьмяялася.

Над тым, што гарбаціцца, корчыцца, кручыцца.

Над тым, што гнілой дзеразой засьцілае асьліглую глебу.

Над тым, што баіцца зірнуць у вагністы прасьцяг, што сонца баіцца гарачага, палкага.

Над тым, што нязграбна карожыцца ў брудзе брусьнелым...

Ой, як вясна пасьмяхалася! Як пагардліва сыпалі дробным сьмяшком галузы - цурочкі бліскучыя!

Аж захадзіліся, аж захліпаліся.

І, хітра міргаючы, у сонца кідалі вясёла-прыжмураны погляд мільёнаў іскрачак-вочак...

А сонца плыло, расплывалася ў мора—душнае, палкае мора.

І абымала ўсё-чыста шчыраю цеплю.

І цалавала ўсё-чыста салодка-пякучым праменьнем.

Сонца плыло. А ў сонцы—у душным, распаленым моры—зьвінелі цурочкамі срэбнымі ядрана-звонкія песьні птушыныя.

Птушкамі пела вясна. Пела шоламам гучным разьюшаных павадак, дробным сьмяшком дуроных цурочкаў.

Радасна пела вясна...

---

## АДНА ПАРТЫЯ Ў ШАШКІ — 1924 Полымя

Гэта—з таго часу, як у маладой савецкай краіне полымем барацьба бушавала, як у сьмяротную бойку схапіліся былі паўстаўшыя работнікі з сваімі адвечнымі ворагамі—панамі. Тады кожны куток нашай краіны працяты-быў вострай напружнасьцю, якая часам прасякалася агнявымі бліскавіцамі бурных уздымаў.

У той час на кожным кроку хаваліся ў цемры падкалодныя гадзіны. Часам выпаўзалі яны на сьвет і атрутныя джгалы паказвалі. Мужыкі-сярмяжнікі зьніштажалі іх сваімі рукамі мазольнымі, карузлымі. І ня было тады меры мужычай моцы жалезнай, ня было меры й гневу народнаму, бурнаму.

У фольварку Струшні тры дні паслугачы панскія сядзелі замацаваўшыся. Акружаны былі кальцом непарушным—чырвонаармейскім атрадам на чале з Асначом—селянінам-гэроем. Не здаваліся, хоць і бачылі, пэўна, што ня будзе ратунку. А мо' чакалі адкуль дапамогі?

Аснач наўмысьля ня браў фольварка з бою: хацеў жыўцом захапіць непакорных бандытаў.

Расстанавіў вакол панскага дому людзей сваіх, сам сядзеў у старажоўскай халупцы, што ад дому крокаў на сто ля дарогі стаяла. Пад вусамі густымі, вялізнымі хаваў увесь час хітравата-давольную ўсьмешку. Пэўна, сам сабе думаў:

— Няхай пасядзяць сабе троху, адпачнуць пасьля працы. А канец—адзін...

Ноччу панскі дом хаваўся ў старожкую цемру. Тады Аснач падыходзіў да дому і хадзіў вакол бязупынку. У паўголаса аклікаў чырвонаармейцаў, бадрыў іх жартам вясёлым. А сам усё хадзіў і ўсё слухаў пільна, уважна, ці ня робіцца што там, за сьцяной, ці не гатуюцца да чаго няпрыяцелі.

На трэцюю ноч, калі ён хадзіў так— бяссонны, настарожаны,—яго чулае вуха злавіла ледзь чутныя рухі ў пакоях. У момант ад чалавека да чалавека перадалася чырвонаармейцам яго перасьцярога. Шчыльней абступілі дом, ля дзьвярэй, ля вакон пасталі з нарыхтаванымі стрэльбамі.

Застыгла ўсё, быццам самлела наўкола. Так ціха было, што, як з саду над домам пралящела нейкая птушка начная, дык чуцен быў мерны ўзмах яе скрыдлаў.

Часінка, другая...

Раптам адчыніліся дзьверы панскага дому. Уздрыганула паветра ад стрэлу. Невядома, хто першы страляў: ці армейцы, што чакалі

каля дзьвярэй, ці мо' бандыты, каб спалох узьняць нечакана, палягчыць сабе магчымасьць уцячы.

Потым ужо ў пакоях пашла страляніна. Тлум, замятня... А праз колькі хвілін асьвяціўся дом сьвятлом няроўным, дрыжачым; з вакон косы віхрыстыя заскакалі па кустох палісадніку.

Гэта Аснач рабіў вобыск па дому. Замест лямпы з паперы зрабіў нібы факелы і асьвятляў імі пакоі.

Доўга не аставаліся ў доме. Аснач хутка сабраў сваіх хлопцаў.

— У вёску, усе... Пільна сачыць за бандытамі... Рукі скруціць... як мае быць... Марш!..

Пасунуліся няроўнай чарадой па цёмнай дарозе.

У невялічкай вёсцы—вярсты тры ад фальварку—спыніліся. Там мусілі начаваць.

Разышліся па хатах, а забраных бандытаў стоўпілі ў адзін з сялянскіх сьвірнаў. Да іх варту прыставілі. Толькі правадыра іхнага павёў з сабой чамусьці Аснач. Двое чырвонаармейцаў яго вартавалі, трымалі нарыхтаваныя стрэльбы.

Увашлі ў сялянскую хату. Аснач сеў адразу за стол, задумаўся, паклаўшы твар на далоні. Усе маўчалі. Толькі гаспадар з гаспадыняй нешта шапталі ўцішку. З цікаўствам

паглядалі на гасьцей і больш за ўсё на таго, што стаяў паміж двух узброеных салдат.

Яго выгляд прыцягваў да сябе ўвагу. Вопратка нібы панская, але так абшарпалася, што зусім страціла свой калішні выгляд. Калматым шкумацьцем недалужна зьвісьлі парваныя полы сурдуту, а скрозь дзіркі на каленках сьвіцілася брудная бялізна.

Стаяў ён панура, нярухома, у дол апусьціўшы сярдзіта прыжмураныя вочы. Твар быццам драўляны, быццам мёртвы. На ім застыгла, закамянела хваравітая злосьць.

Аснач раптам узьняў галаву. Акінуў хату ўраз павесялеўшым, сьветла-іскрыстым паглядам.

— Гаспадыня! А як будзем з вячэрай, га?..

Замітусілася баба, забегала па закуцьці.

— А бадай яно цямілася. Гэта-ж мне з галавы вон. Т'кі праўду кажуць, што сыты галоднаму не спагадае...

Неяк ураз зьмяніўся ўсіхны настрой. Быццам нейкі гульліва-радасны промень працяў тую прыкрую цяжкасьць, што гнётам вісела ў хацёнцы. Закулдыячылі дзеці, загаварылі армейцы. Гаспадар падсеў к Асначу, пачаў гаманіць з ім—сьперш асьцярожна, нясьмела. Зазіраў у яго добрадушныя вочы з цікаўствам, з павагай, распытваў пра падзеі у фольварку. Аснач апавядаў, і ўсе сьмяяліся давольна, радасна.

Толькі адзін палонны маўчаў. Быццам ня чуў, не ўважаў, што наўкола, углыбіўшыся ў думкі свае асабістыя.

Падалі вячэру. Аснач разгарнуўся, расшпіліўся, вольна раскапусьціўся за сталом, гатуючыся як мае быць узяцца за ежу. Па твары разьлілася давольнасьць—шырокая, млявая, якая заўсёды бывае ў тых, хто пасьля цяжкае працы знаходзіць сабе адпачынак.

У гэты момант пагляд Аснача спаткаўся з паглядам бандыта. Толькі хвілінку глядзелі яны адзін у вочы другому, але гэтага досыць было, каб Аснач згадаў тое, што перажывае ў гэты момант зьбянтэжаны пан. Скрозь усю тую варожасьць і злосьць, якія сьвіціліся ў прыжмураных вачох, нястрымана прарывалася моцнае жаданьне, і гэта жаданьне, відаць, панавала цяпер над усім пачуцьцём, над усёй істотай гэтага чалавека.

— Есьці! Есьці!—быццам крычалі напружна-бліскучыя вочы бандыта.

І тады Асначу яшчэ весялей зрабілася. Ня было ўжо злосьці на недалужнага, бясьсільнага ворага. Нават жаль нейкі зьявіўся. А панская ўпартасьць, замкнёнасьць здалася сьмешнай і недарэчнай. Ён праказаў вясёла з захаваным сьмяшком:

— Можа пан не адмовіцца павячэраць?

Злосьцю і пагардай бліснулі панскія вочы. Адвярнуўся, не глядзеў нават у бок Аснача.

Але Аснач ведаў, што голад пераможа ўпартасьць.

— Хлопцы! Разьвяжэце пану рукі, няхай падмацуецца троху...

Разьвязалі. Пан ня рушыўся з месца. Відаць, змагаўся з сабой. Але ўрэшце ня вытрымаў. Утупіўшы вочы, падышоў да стала. Больш не чакаў, каб прасілі, накінуўся на страву, як зьвер галодны. Мусіць, доўгі час нічога ня еў.

Як скончылі вячэру, як у ціхай сямейнай прытульнасьці зацягнуў сваю ветлую песьню самавар ля парога, Аснач заўважыў на вакне дошку ад шашак.

— А бач! Вось дык знаходка... А дзе шашкі? Дзядзька!—зьвярнуўся ён да гаспадара.

— А ліха іх ведае... Як быў сын у дварэ, гулялі часам хлопцы... А потым, мусіць, параскідаліся, бо гуляць няма каму, так вось валяюцца...

— Кепска, кепска. Але нішто, мы наробім...

Узяў кавалак хлеба і пачаў крышыць шматкамі маленькімі.

— Ну, сядай, хлопцы, згуляем...

Але з чырвонаармейцаў ніводзін ня ўмеў гуляць.

Аснач зірнуў у бок пана. Той сядзеў за сталом, упяўшы пагляд некуды ў пусты прасьцяг. Думаў усё. На твары цяпер спакой быў, ціхамірнасьць.

— Ці згуляе, ці не?

Хочацца Аснaчу ў шашкі пагуляць, дужа хочацца. Шашкі—гэта ж яго ўцеха найпершая... Пэўна, гуляе пан, але ці згодзіцца? А цікава было-б з ім...

Ён абярнуўся да пана, і той, быццам схапянуўшыся, зірнуў на яго чакаючым поглядам.

— Можа згуляем партыю?—запытаўся Аснач.

— Давайце.

Узяў нейкую паперку з вакна і пачаў таксама, як і Аснач, гатаваць шашкі.

Расстанавілі—Аснач хлеб свой пакрышаны, а пан кавалкі паперы.

Чамусьці раптам заціхлі ўсе ў хаце. Армейцы падсунуліся бліжэй, глядзелі з цікавай усьмешкай.

Пачалася гульня. Вострая, едкая ціша агарнула хацёнку. Настойным, назольлівым гнётам павісла пытаньне:

— Хто каго?

Глядзела гэта пытаньне з цікавых вачэй армейцаў, з маўкліва-ўпятага ў шашаніцу погляду гаспадара. І, нават, гаспадыня, сноўдаючыся па хаце, часам падыходзіла да стала і зазірала на шашкі, хоць і не разумела ў іх нічагутка.

Аснач насупіўся. Упарта глядзеў на дошку, асьцярожна, зважна перастаўляў кавалачкі хлеба. І чым далей, тым больш і больш

моршчыліся яго бровы, а вусы шаваліліся, як у таркана.

Дзіўная была гульня ў Аснача з панам. Абодва напружыліся, абодвых цалком захапіла адна вострая, палкая думка: каб не прайграць.

У Аснача пад звонку нібы зусім спакойным выглядам хавалася моцнае абурэньне. Адно зьвінела, гудзела ў мазгох: ён павінен абыграць, ён не павінен паддацца. Чаму—невядома, але так трэба, так павінна быць.

І нешта дзіўнае, нязвычайнае рабілася з Асначом. Ніколі ён ня гуляў з гэткім запалам. Быццам усёй істотай увашоў ён у шашкі, у гэтыя цьмяныя кавалачкі хлеба, усю моц сваю, волю ўклаў у іх. І здавалася што гэта ня шашкі ўжо, што ня ў іх справа. Здавалася, што няма ўжо шашак, што счэзьлі яны, распаўзьліся, разгарнуліся ў нешта вялікае, шырокае, у нешта бяз форм, без пачатку й канца. І асталіся тут толькі яны ўдвух—адзін проці аднаго—з гэтым панам, што блішчыць варожа вачмі, што ўсьміхаецца ўсьмешкай саманадзейнай.

Абыграць яго, перамагчы! Бо йначай—няма ведама што...

Гульня к канцу падыходзіла. Асталося па некалькі шашак у кожнага. Абодва не паддаваліся.

Густою чырваньню пакрыўся акамянелы твар Аснача, вочы заблішчэлі агнём жорсткім, сталёвым. Упарта глядзеў на дошку. У ваччу ўжо ня хлебныя крошкі, а нейкія вялізныя камлыгі каменныя. Здаецца, заваліў-бы, раструшчыў імі гэтыя заядлыя белыя паперкі. А разам з імі і гэтага ўпартага, злоснага ворага.

У парозе гаротна, недалужна пішчэў самавар. Усе на яго забыліся, усе абступілі гульцоў, з зацятым дыханьнем чакалі, чым скончыцца. Ува ўсіх на твары відаць было шчырае спачуваньне Аснача, жаданьне, каб выйграў ён, не паддаўся. І разам трывога—напружная, палкая.

— А што, калі ды прайграе?..

Гэтак і вышла. Зрабіў Аснач ход дрэнны, няўдалы, і твар пана раптам зайграў давольнай, радаснай усьмешкай.

Аснач прайграў. Аснач паддаўся варожаму пану.

Раптам глыбокая цішыня стала жудаснай, злавеснай. Дзіўна дапасаваў ёй завыўны, жалобны посьвіст самавара.

Узьняўся Аснач. Упяў погляд проста ў твар пану. У гэтым поглядзе нешта гарэла, бушавала—шалёнае, лютае.

Пан таксама ўстаў. Сьмела глядзеў у твар Асначу, усьміхаўся злорадасна.

І вось тады здарылася тое, чаго, пэўна, ніхто не чакаў, што спалохам агнявым усіх агарнула.

Аснач выняў з кішэні наган і навёў яго ў пана. Стрэл быццам ускалануў, разадраў усю хату.

А пасьля—ціха стала, як у магіле. Пан марудна, паволі апусьціўся на лаву.

Аснач стаяў нярухома. Ня ведаў ён сам, нашто забіў пана, за што.

Дый ня думаў пра гэта. Нешта падказала з нутра, што трэба так, што павінен забіць, што вораг гэта кроўны, упарты,—узяў і забіў...

Усе моўчкі стаялі, спалоханыя. Усе ўзіраліся ў недалужна-паніклае панскае цела. І дзіўна, што ні ў кога ня мігнула ў гэты жудасны момант думка асуджэньня. Быццам усе згодны былі з Аснычом, быццам кожны разважаў сваім простым, нямудрым розумам:

— Яму трэ' было гэтак зрабіць...

Дык вось якая была адна партыя ў шашкі...

Гэта было тады, як у нашай краіне барацьба бушавала, як у сьмяротную бойку схапіліся былі паўстаўшыя работнікі з сваймі адвечнымі ворагамі—панамі.

Тады ня было меры мужычай моцы жалезнай, ня было меры й гневу народнаму, бурнаму...

---

## ЯК НАСТУЛЬКА КОМСАМОЛКАЙ ЗРАБІЛАСЯ

1.

У Тодаравай лазьні была надзвычайна патаёмная нарада вясковых комсамольцаў. Тут быў і браценьнік Настулькі, Пётра-карузьлік, і таксама Мікола Загацкі, які меў нешта да Настулі, мабыць прыхільнасьць якую, ласку хлапецкую.

Каб хто збоку ўгледзеў нараду хлапцоў, напэўна падумаў-бы, што сабраліся сюды абгаварыць нейкую пільную, важную справу. І не памыліўся-б, бо выраз твараў, рухі хлапцоў ясна гаварылі аб гэтым бяз слоў: усе—у гурток, адзін к аднаму, нахіляюцца, шэпчуць, рукамі махаюць. Каторы дык аж захліпаецца ад абурэньня, пырскае шчодра сьлінай у твары сяброў.

А вырашалася ў хлапцоў пытаньне вельмі жыцьцёвае й пільнае, такое, з якім памарудзіць, дык—крышка, прапала ўсё-чыста. Пытаньне такое:

— Як ратаваць Настулю?

Мікола дакладваў:

— Гаврыў я з ёй сёньня, ды нейкая яна неўгаворная. І баіцца ўсё... Пагутарыш з ёй, дык яна плакаць. Румзае, сьлёзы, як паваднкі... А спытаешся: „Хочаш замуж пайсьці?“— дык усхопіцца, аж закалоціцца ўся. „Ня хачу, кажа, баюся... Куды мне, шаснаццаць год яшчэ ня мінула“...—І замуж ісьці баіцца і ня йсьці таксама баіцца. І плача ўсё, румзае... Я ўжо ня ведаю, браткі, што тут рабіць...

Пётра-карузьлік, браценьнік Настулькі, ураз садаклад:

— А што было, хлопцы, як заручыны гулялі, каб вы толькі ведалі... Юрка напіўся, вусамі гэта сваймі—фырць, фырць, ды ўсё да Настулі. „Вы, кажа, да мяне з няпрыемнасьцю ўсё, а я, дык вас дужа кахаю. Я, кажа, як жанюся, на руках вас буду насіць“... І ўсё да Настулі цалавацца лезе, сапраўды... А яна яму: „Пашоў ты к ліху, я, кажа, ня люблю цябе, бо ты брыдкі і стары“... Да душы-ж, хлопцы, гэтак якраз і сказала. Бацька тут як разышоўся,—„вон, крычыць, з хаты маёй, паскудніца!“ Біць нават хацеў.

— Ну, а яна што?

— Яна плакаць, вядома. Матка заступілася, а то-б напэўна бацька задаў... Я, брат, наўцёкі, каб часам і мне што не перапала...

Мікола задумаўся.

— Дык што-ж, браткі, рабіць, га? Трэба як-небудзь ды выручаць.

Хлопцы ўсе, як адзін:

— Вядома, выручаць трэба... Што-ж гэта за рахуба: гвалтам дзеўку выдаваць, ды яшчэ за брыдоту за гэткую!..

— За падлу старую!..

— За недарэку сусьветную!..

— За качарэжку гнілую!..

— За морду спэкуляцкую!..

— Ціху, хлопцы, маўчаць!

Гэта Ключонак Андрэй, самы дужэйшы й самы разумны з усіх комсамольцаў. Зазвычай маўчыць усё, слухае, а калі й скажа, дык заўсёды да ладу.

Паціхлі ўсе, слухаюць.

— Калі гэта так, дык трэба прыняць рэпрэсыўныя меры. Нельга дазволіць, каб ні за што, ні пра што дзеўку маладую губілі. Мы павінны яе ратаваць. Верна?..

— Вядома!.. Правільна!.. Так!..

А нехта азваўся:

— Ня йначай—паламаць яму рэбры патрэбна, каб ня круціўся там, дзе ня просяць...

— Дурань!—выцадзіў скрозь зубы Андрэй. І далей:

— Трэба абмеркаваць добра плян, каб зрабіць усё гладка, чыста і каб не спазьніцца. Хто мае якія пропозыцыі?..

Маўчалі ўсе, думалі, моршчылі лбы шчыра, станоўка.

Першы Ахрэм схапянуўся.

— Во як, хлопцы, паслухайце!..

— Ну?

— Як будзе Юрка на вясельле ехаць, падсьцерагчы яго дый паламаць калёсы...

— Дык ён у суседа пазычыць. Глупства. Ну, хто яшчэ што прыдумаў?

Хлопцы ўсё моршчылі лбы, паролі падлогу вачмі сур'ёзнымі, упартымі. Урэшце Андрэй прымусіў іх кінуць дарэмную працу.

— Во што, хлопцы, я вам скажу: языком трапаць вы ўсе мастакі, а прыдумаць што добрае—пораху мала... Слухайце.

І ён расказаў. Мусіць дужа ўдалы плян выдумаў, бо ўсе, як пачулі, аж затрасьліся ад радаснага абурэньня, а Пётра-карузьлік на аднэй назе заскакаў:

— Ай-яй-яй... Вось, дык добра!.. Вось, дык гут... Ай-яй... Ах-ха-ха!..

— Толькі чур, хлопцы, ані слова...

І азірнуў усіх Андрэй сур'ёзным выразьлівым поглядам.

— Ані гуку... Чулі?

2.

Настулька—як кветка, у вясельным убраньні. Тварык—беленькі, з чырваньню сьвежай, вочкі—незабудкі блакітныя, зьзяюць аганькамі прыветнымі, ціхімі.

І чамусьці ў іх сум, у гэтых вочках, а часам нават сьляза набягае, засьцілае чысты

блакіт, расіцай бліскучай на незабудкі-кветкі кладзецца.

І ўздыхае Настулька. Ціха, прытоена, каб не дазналіся людзі, што дзеецца ў яе ў нутры, там недзе, глыбока-глыбока, дзе схована ўсё, што ня можна людзям цікавым паказваць.

Там многа чаго назьбіралася. Там больш благое, гаротнае, але ёсьць і добрае нешта. Там часам лунае вобраз Міколкі-хлапца. Усплывае ён аднекуль з бяздоньня, расьце, вырастае ў аблічча жывое, мігціць у ваччу плямай яскравай, прыгожай. Тады на твары Настулькі ўжо ня журба, не маркота, а быццам яснае сонейка. І блакітныя вочкі—сьмяюцца, граюць агоньчыкам вострым, гарэзным.



Але так нядоўга бывае, бо Настулька баіцца цешыць сябе вобразам любым. Баіцца, каб хто не праведаў, каб хто не згадаў. І хавае яго палахліва туды, у бяздоньне, дзе схована ўсё, што ня можна людзям цікавым паказваць.

У Настулькі вясельле гульлівае, бурнае. Гармонь дык аж рвецца, скаголіць, бы звар'яцелая. І самагону—хоць утапіся. Ад яго ў Юркі-маладога ўжо вочы маслам бязглуздым плывуць, а нос над вусамі задзёрыстымі рдзее сьлівінай сьпелай.

Настулька таксама выпіла трошкі. І затым у яе ўсё пераблыталася: не разабраць, ці дзяўчаты сьпяваюць, ці гармонь заліваецца,

ці мужык шэпча на вуха брыдкія, нязвычайныя словы...

І Настульцы цяпер усё-роўна... Замуж, дык замуж—няхай... Бо прапала ўсё, згінула.

Да Настулькі праціснуўся Пётра-брацельнік. Зашаптаў на вуха:

— Настулька! Цябе там чакаюць на вуліцы, просяць выйсьці.

— Хто?

— Там убачыш.

Ажывілася Настулька. З галавы самагон зайцам выскачыў. На бакі азіраецца турботна...

Усё—п'яныя твары, блішчаць самагонам тупа, здаволена. Мужык да суседа ўжо прыхіліўся, цалуецца.

— Ат! Глядзець на іх яшчэ...

Вылезла з-за стала, дый гайда за дзьверы.

На вуліцы абступілі, абкружылі з усіх бакоў. Мікола перад усімі. Абняў, шэпча на вуха горача, шчыра:

— Настулька, мы прышлі за табой. Хадзем! Уцякай адсюль, няхай яны робяць тут што-хоця...

— Куды? Што ты Мікола?..

— Настулька, кінь ты гэтае глупства. Ці-ж табе хочацца замуж выходзіць? Гэта-ж не даўнейшае, што бацькі гвалтам дзяцей жанілі, цяпер усе вольныя... Ты падумай, як ты жыць будзеш з нялюбым, з псінай старой?.

— Дык а як-жа? Я-ж ужо павянчалася...

Тады азваўся Андрэй, самы дужэйшы і самы разумны з хлапцоў:

— Эт, глупства—павянчалася... Поп павянчаў, а мы разьвянчаем. Нават вакол стала паводзім, калі захочаш... назад, у другі бок... Пойдзем!

— А татка... Ён-жа заб'е...

— Ды куды там—заб'е... Яшчэ як дазволяць яму.

— Не, хлопцы, баюся я...

Тады Андрэй як сьлед ужо ўзяўся.

— Хлопцы, даволі тут агітаваць! Гэта можна пасьля. А цяпер—Пётра, цягні лахаманіну якую напрануцца...

— Бяры, хлопцы, пад ручкі!..

Схапілі, пацягнулі. Пётра збоку галасёнкам тонкім, пісклявым:

—Нікаму так не ўдалося,
Як нашаму Юрку...

Настулька ня ўпіналася. Зрабілася раптам сьмешна і радасна. Думала толькі:

— Што-ж гэта будзе? Куды яны валакуць?..

А хлопцы Настульку ў школу даставілі. Увялі ў клясу і пакінулі з Міколай. Сказалі:

— Агітуй тут, давадзі да сьвядомасьці, а мы пойдзем пабачыць, што дзеецца там...

Асталіся ўдвух. Цёмна ў школе, гулка зьвініць пустата, лаўкі вучнёўскія грудзяцца грамозднымі чорнымі плямамі. Ціха, як у лесе.

Страшна стала Настульцы. Трывала-трывала, а потым села на лаўку і сьлязьмі залілася, захліпала, што дзіцянё. А Мікола да яе дый давай угаварваць:

— Сорамна табе, Настулька. Шаснаццаць год хутка будзе, а як дзіцёнак... Гэта-ж глупства. Ты вось паглядзі на нас, комсамольцаў... Мы не баімся нічога і робім так, як лічым патрэбным. У нас усё, брат, па розуму. Ніякіх забабон... І каб хто мяне ды замуж аддаў проці волі—ого, няхай папрабуе!.. Мы, комсамольцы, павінны рабіць усё так, як наш розум падказвае і іншых павінны кіраваць на правільны шлях...

І пашоў, і пашоў... Настулька нават кінула плакаць. Толькі хліпала нэрвова раз-по-раз.

— А ў вас... хн... дзяўчат няма... хн... у комсамоле...

— Як-то няма? А Тэкля, Марына, Ульляна... ужо заявы падалі.

— Ну?..

— Вядома. Хутка ўсю моладзь зьбярэм...

Яшчэ гаварыў з паўгадзіны, і Настулька зусім заспакоілася. Толькі ўсё бурчэла, вусны надуўшы:

— А вы ў бога ня верыце...

— У бога? Плюнь ты на бога, на чорта ён табе. Каб ізноў з Юркам зьвянчалі?..

— Гэта ня бог вянчае, а поп...

— Ну, усё роўна...

У гэту хвіліну Пётра ўляцеў, як ашпараны.

— Настулька! Татка з Юркам сварыцца. Юрка гвалтуе ўсё: „Дзе Настуля? Што ты, сьмяяцца ўздумаў нада мной?“ А татка яму: „А ты што не глядзеў за жонкай сваёй? Праwароніў, кажа, дык сам вінават“... Ох, сьмеху колькі... З хаты татка Юрку пагнаў... А табе, Настулька, ня трэба йсьці зараз у двор, бо біцца будзе татка. Тут заначуй...Ну, пабягу-ж я...

Тады Мікола вышаў і прынёс бярэма саломы.

— Кладзіся, Настулька, ды сьпі, заўтра ўсё добра наладзім.

Настулька схапіла яго за руку.

— Не, Мікола, я баюся адна. Ты ня йдзі. Мы ня будзем спаць, лепш раскажы мне яшчэ што...

— Эх ты, птушка пужлівая!.

3.

Назаўтрага ў хлапцоў зноў пільная нарада: што рабіць далей?

І Настулька сярод іх. Цярпліва чакае вырашэньня долі свае. І яна ўжо спакойная—ня плача больш, не баіцца. Пэўна ў тым, што ўсё кончыцца добра, бо хіба гэткія ўдалыя хлопцы не ратуюць яе?

І ў вочках блакітных ня відаць ужо смутку, блішчаць яны радасьцю, шчасьцем. Часам, як

хлопцы разьвесяляцца, разрагочуцца рогатам моцным, гульлівым, дык і Настулька ўсьміхнецца, свае белыя зубкі пакажа. А то, дык і зусім пасыпецца звонкім раскацістым сьмехам.

Доўга спрачаліся хлопцы, як рабіць ім далей і, урэшце, надумалі: пайсьці ўсім гурмай да Настулінага бацькі. Яе таксама ўзяць з сабой. Мо ён улашчыўся ўжо, ня будзе сварыцца. А хоць часам і будзе сварыцца, дык мо' біцца ня будзе.

І пашлі. Настулька сярод іх, вочкі спусьціўшы, зачырванеўшы ад сораму прыкрага, ліпучага. Пётра-карузьлік з падскокам наперадзе.

Сяляне з цікавасьцю, з сьмехам пазіралі на іхны нязвычайны паход.

Падышлі да хаты. Увашлі: першы Андрэй, за ім Пётра, Мікола. Настулька адзаду сярод іншых хлапцоў.

Бацька ў хаце сядзеў. Андрэй зважнаногі расставіў і нарыхтаваўся гаворку пачаць.

Але вышла зусім ня так, як чакалі. Бацька раптам сарваўся, схапіў качаргу, ды на іх:

— Ах вы, сякія такія!.. Сукіны сыны, падшывальцы!..

Хлопцы—шугель, ды на вуліцу, ды па вуліцы... І паміж іх Настулька, распусьціўшы падольле.

Як прыбеглі, запыхаўшыся, назад у школу, дык чамусьці не глядзелі адзін на аднаго:

мусіць сорамна было ўсім. Потым рагатаць пачалі, а потым зноў Андрэй сур'ёзна пачаў гаварыць:

— Калі так, дык трэба йначай рабіць. Настулька павінна жыць тут, пакуль бацька сам ня прыдзе і не запросіць. А не захоча— няхай сабе. Настулька й сама пражыве, не малая. Знойдзем ёй працу, заробак які. А пакуль што, хлопцы,—марш за харчамі! На першыя дні трэба дастаць. Жыць будзе ў нашай чытальні, а каб часам чаго ня прытрапілася, па чарзе будзем дзяжурыць. Ахрэм вывесіць сьпіс...

Настулька пакорліва слухала, што ёй гаварылі. У чытальні абсталявалася, прыладзілася да жыцьця. Толькі папрасіла, каб прынясьлі ёй якую работу, бо нудна бяз дзела сядзець.

Увечары комсамольцы сваю агульную сходку зрабілі. Абгаварылі сякія-такія пытаньні, потым газэты, кніжкі чыталі, комсамольскія песьні сьпявалі. Сабралася колькі дзяўчат—сьмех, жарты... Настулька й забылася на бяду на сваю, весялілася разам з усімі, шчасьлівая, давольная.

Было ўжо позна, як раптам адчыніліся дзьверы і ў парозе зьявіўся бацька Настулькін. У Настулькі сэрца—ёк, ёк, а з твару чырвань, як ветрам, сагнала. Стаіць, вочкі ўтупіўшы, сукенку цярэбіць.

Бацька да яе:

— У двор пашла, распусьніца!

Але Настулька добра помніць, як хлопцы вучылі.

— Я, татка, пайду, калі абяцаеш, што біцца ня будзеш...

— А няхай цябе ўжо пярун заб'е, мая дзетачка...

— І што замуж аддаваць гвалтам ня будзеш...

— Не ўжо, няхай цябе чорт аддае, гэткую ўпарціну...

— І ў комсамол запішуся...

Бацька ўжо хацеў узлавацца, але хлопцы, дзяўчаты абступілі яго.

— Дзядзька, пакіньце ўжо, ну няхай, ці-ж вам шкода... Яна-ж у нас толькі навучыцца.

— Навучыцца... На пень брахаць ды на калоду тукаць. Досыць ужо навучылася...

А Пётра вакол яго на аднэй назе...

— Татка! Татулька! Няхай Наста ў комсамол, мне весялей будзе.

Тады яшчэ Андрэй падышоў.

— Дзядзька, кінь ужо, сапраўды... Усёроўна нічога ня зробіш...

І ўсе:

— Кінь, дзядзька... Згаджайся!..

Бацька рукой махануў.

— А бадай вас пярун... Зводу няма на вас... Ну, хадзем, Наста! Чуеш?

— А абяцаеш, татка?

— Сказаў—хадзем... Ну?..

— Калі абяцаеш, дык чаму-ж, я пайду...

Як вышлі, комсамольцы ўсе-чысьценька ў скокі пусьціліся. А ад рогату вокны дрыжэлі.

Вось з таго часу Настулька і ў комсамол паступіла. А комсамолка вышла якая!..

—

## БАЦЬКАЎ СЫН

Увечары, як Сьцёпка ўпарадкаваў скаціну і, змораны дзённай працай, уваліўся ў сваю мізэрную хатку, маці сказала яму:

— Хоць-бы ты, сынок, да таткі даведаўся, занёс яму што-колечы. Мо‘ галадуе тамака ў лесе?

Гаварыла старая ціхім, прытоеным голасам, быццам баялася, каб хто не падслухаў. Сьцёпка таксама ёй адказаў:

— Мамка! Змарыўся я, ног пад сабой ня чую.

А ў думках мігнула:

— Лес, нетры... могільнік па дарозе... Страшна...

Здрыгануўся міжвольна. А матка больш не настайвала. Уздыхнула цяжка, глыбока.

— Як сабе хочаш, сынок...

Колькі ціхай пакоры ў сумным матчыным голасе, колькі журбы нявыводнай!.. Ах, нашто яна так, лепей-бы сварылася, дык упяўся-б, не пашоў на наругу. А так—няма сілы, каб не пайсьці. Хоць і страшна, хоць і жудасьць хапае пры думцы аднэй...

І Сьцёпка пашоў. Адразу, нават не пачакаўшы вячэры, бо знаў, што, калі замарудзіць,—больш страху, жудасьці набярэцца.

Сьцёпка добра помніць тое месца. Там, дзе лес пераходзіць у багну, дзе пачынае пад нагамі сьлюнява цьмякаць набраклы вільгацьцю дол, там трэба шукаць маленькай вузенечкай сьцежкі. Потым па ёй сярод куп'я, карчоў—валасатых страшыдлаў, паміж чорных лужын бяздонных, пакуль не адкрыецца ўзгорак, быццам нейкая выспа сярод багныбалота. Па ўзгорку направа, у бок, да густога калматага хмызьніку. Там спыніцца, ціханька сьвіснуць...

Сьцёпку самае галоўнае—да лесу дабрацца. Там ня так страшна, бо лес свой, лес ня выдасьць. У лесе кожнае дрэва знаёмае, кожная сьцежачка. А вось пакуль да лесу... Вакол вёскі жандары польскія нікаюць, падсьцерагуць часам—крышка тады і бацьку й яму.

А страшней за ўсё—могілкі. Чаму так баіцца іх Сьцёпка? Чаму такі жах наганяюць яны сваймі старымі пакарожанымі бярэзінамі, сваймі крыжамі паніклымі? Ня верыць Сьцёпка ні ў чарцей, ні ў нябошчыкаў, ведае—глупства гэта адно, ня ўстануць мерцьвякі з могілак, не задушаць яго. А вось страшна чагосьці.

Бяжыць Сьцёпка краем дарогі, прыгінаецца нізенька, вострымі вочкамі бяздонную

цемру сьвідрue. Ззаду, здаецца, нехта паўзе, насьцігае. Вось хапае ўжо за полы доўгай сарочкі... Уцякаць?..

Не, гэта так, толькі здаецца. А пабегчы— тады прапаў, тады ўжо не адкараскаешся ад страху.

Наперадзе загараджвае дарогу цёмная пляма. Распаўзлася абапал дарогі, берагі свае ў цемры разбавіла, зьлілася з цемрай. Гэта— могілкі...

У Сьцёпкі ня сэрца ў грудзёх, а жалезны клявец—гэтак стукае, б'ецца. Але йдзе, ня спыняецца.

Чорная пляма разгарнулася ўшыркі, увабрала яго ў сваё нутро. З бакоў заплавалі няясныя цыбатыя цені крыжоў. Здаецца, пасуваюцца, набліжаюцца да дарогі.

А гэта што?.. Быццам нейкія крокі?.. Не, гэта-ж сэрца так б'ецца. Глупства. Зараз канец, там поле, а далей і лес ужо.

Раптам паблізу хруснула нешта. Ірвануўся Сьцёпка, у нагах нэрвовыя дрыжыкі... Але стрымаўся, заспакоіў сябе:

—Глупства. Мо' птушка?

Наўмысьля ход замарудзіў. Пашоў, гледзячы проста перад сабой у кропку адну. Вось і канец. Лёгка ўздыхнуў, шпарчэй пасігаў па дарозе.

Лес раптам насунуўся вялізнай хмурай грамадой. Як уваходзіў Сьцёпка ў яго, пачуў сябе маленькім-маленькім, быццам казюлька

якая. Але пасьмялеў, бо хіба-ж можа што стацца гэткаму маленькаму хлопчыку пад аховай магутнага лесу—дзядулькі!

Ішоў па лесе вобмацкам. Натыкаўся на дрэвы і, мінаючы, абымаў іх з нейкай шчырай ласкай дзіцячай.

Патаёмную сьцежку ўраз адшукаў, бо ня зьлічыць нават, колькі разоў вымерыў ён сваймі маленькімі крокамі гэтую дзікую мясьціну. Па сьцежцы паціху пашоў, мацаў нагой, каб ня зьбіцца, бо троху ў бок—і капут, загрузьнеш у багне. Доўга прышлося цягнуцца. Змора валіла з ног, да зямлі прыціскала. Але йшоў, ня спыняўся.

Урэшце сьцежка вільнула раптам у бок і Сьцёпка пачуў пад нагой цьвёрды, бясьпечны грунт. Тут—направа цяпер.

Пашоў вольна, размашыста, нават галаву задраў угару. Цяпер ён не баіцца. Ані крушыначкі! Чаго-ж яму баяцца, калі тут—колькі крокаў—і свае людзі: бацька, хлопцы вясковыя... А як бацька ўзрадуецца!

Вось і хмызьнік. Сьцёпка спыніўся. Перавёў дух, каб ямчэй было сьвіснуць, бо гэта-ж самае цікавае. Вось толькі як: ці ў прыгоршчы ці ў два пальцы? Лепш у прыгоршчы, мусіць, бо яно ў яго надта спрытна выходзіць, якраз, як сава.

Сьцёпка склаў рукі, прыладзіўся.

— Фіў...

Усьміхнуўся здаволена. І сапраўды—якраз, як сава... Зараз адкажуць. Тады можна пайсьці.

Але нешта ня чутна. Што-ж гэта, няўжо не пачулі? Трэба другі раз...

Ізноў ня чуваць. Паждаў часінку, яшчэ раз сьвіснуў.

Ізноў ня чутна адказу. Няўжо ўсе паснулі? Ня можа быць, варта павінна стаяць.

І раптам страх ахапіў Сьцёпку. Зноў пачуў сябе адзінотным. Няўжо нікога няма? Няўжо пашлі куды ў іншае месца? Што-ж цяпер? Назад?..

Уявіў сабе Сьцёпка дарогу: балота, могілкі...

— Не, не пайду. Трэ' паглядзець, мо' й сапраўды паснулі.

Сьцёпка палез у кусты. Асьцярожна рассуваў мяккае вецьце, часам спыняўся, прыслухваўся.

Ціха. Ані зыку, ані шолаху.

І чым далей, тым болш ахапляў Сьцёпку жудасны страх. Шчыльней туліўся ён да зямлі, віўся па ёй, як вужака.

Раптам скрозь вецьце агоньчык блісьнуў. Сьмялей попоўз Сьцёпка. Зноў агарнула радасьць, здаволенасьць. Праз колькі крокаў палянку ўбачыў наперадзе. Па ёй сьвет бегае цьмянымі дрыжыкамі, варушыць, карабаціць сонную траву. Гэта—ад вогнішча, што недалужна згасае сярод палянкі. І—што гэта?—вакол нікагутка. Пуста...

Сьцёпка пацїху высунуўся на палянку, пільна прыслухаўся. І рапгам—быццам ударыла яго што, ашаламіла. Лёг на зямлю, прытаіўся, поўны вострага палкага жаху.

Ці не здалося гэта яму? Не, во яшчэ... яшчэ... Хрыпіць нехта. Ды так-жа страшна, жудасна...

Задрыжэў Сьцёпка ўвесь. Ляжаў нярухліва, ня знаў, што рабіць. А там усё хрыпіць, усё хрыпіць...

Урэшце Сьцёпка набраўся адвагі, узьняўся пацїху, пачаў уважна разглядаць палянку.

— Вунь ён!..

На ўскраю паляны цьмяны выблеск згасаючага вогнішча вызначыў цёмную фігуру. Нехта ляжыць, стогне. І больш мусіць нікога няма, адзін ён.

Сьцёпка троху счакаў і потым гукнуў палахліва:

— Дзядзечка!

І сам зьдзівіўся свайму голасу: такі слабы, ледзь чутны. Другі раз паклікаў:

— Дзядзька!

У адказ зноў пачуўся цяжкі жудасны хрып. Тады ён бліжэй падышоў, пачаў разглядаць. У твар зазірнуў. І раптам кінуўся з дзікім прарэзьлівым крыкам:

— Татачка!..

Бацька пазнаў сына. Напружыўся і загаварыў скрозь сударгавую хрыпоту:

— Сьцёпка... сыночак... гэта ты... забілі мяне... знашлі... выказаў нехта... Уцяклі каторыя... у Седлішча... так згаворана было... Ой, цяжка, баліць...

Зноў захрыпеў, застагнаў. На вуснах злавесным булькатам чорная кроў.

Сьцёпка плакаў горка, адчайна. У роспачы туліўся галавёнкай да бацькавых грудзей.

Бацька раптам заварушыўся.

— Ой... цяжка... гарыць, ой... ой...

Апошні ўздых—і выпрастаўся, змоўк. Сьцёпка перш не зразумеў, потым усё стала ясна.

— Памёр!.. Няма таткі!..

І дзіцячая крыўда агарнула болем пякучым. Сьлёзы яшчэ мацней паліліся, зьмяшаліся з бацькавай крывёй.

З гадзіну сядзеў тяк ля бацькі, плакаў усё. Потым устаў, азірнуўся.

Вогнішча згасла ўжо. Цемра ўсё заліла, затапіла.

У Сьцёпкі ў галаве біліся думкі. Новыя, напружныя.

— Хто гэта? За што? За што яго татку згубілі?

Успомніў польскіх жандараў, якія ўвесь час бацьку шукалі, якія ня раз яго самога пыталі і білі. І дзіцячыя кулачкі моцна сьціснуліся ад прыліву вострага гневу.

— Гэта яны... яны забілі татку...

І разам у дзіцячай галаве стальлю прарэзалася пастанова:

— Не пайду ў вёску, ня хочу... У Седлішча, казаў, уцяклі... Пайду шукаць...

Адважна разгарнуў кусты і пасігаў у той бок, дзе, як ён знаў, было Седлішча...

. . . . . . . . .

Матка чакала Сьцёпку. Усе вочы прагглядзела, вушы праслухала. Горам ахінулася матчына сэрца.

Няма сынка, ня чуваць.

Няма і ня будзе. Доўга ня прыдзе, дарма што так пільна яго матка чакае.

Ня прыдзе затым, што ён бацькаў сын і будзе рабіць бацькаву справу...

—

## У ВЯЛІКОДНУЮ НОЧ.

Гадзіньнік на сьцяне цікаў так цененька, квола, быццам пакорна жаліўся на нейкую крыўду: цяжкую, незаслужоную. Ад гадзіньніка плыла па пакою цягучая, як цеста, нуда і застыгала, зьвісала важкім напружаным гнётам.

Поп лёг на ложак, выпрастаўся з асалодай, бо цела цяжарыла тупая санлівая млявасьць. Хацелася ляжаць нярухома, доўга ляжаць, без канца. Хацелася, каб думак ня было, каб не калолі яны раз-по-разу вострымі джгаламі мозг, каб не працінали раптам нутро непакоем трывожным.

Цягучым цестам цякла па пакою нуда, асядала на сэрца грамозднай камлыгай даўкага гнёту. Гадзіньнік жаліўся на нейкую крыўду, усё цікаў так жаласна, квола.

Рыпнулі недзе, заенчылі дзьверы. Поп пільна прыслухаўся.

Ці ня стараста? Час ужо, здаецца... Не, ціха. Ціха да болю ў вушах. Цішыня нейкая жалезная, вострая. Упіваецца ў вушы, у нутро і пачынае зьвінець звонам шаломным.

— Чаму-ж няма старасты? Сказаў яму, каб прышоў, як зьбярэцца народ. Няўжо яшчэ нікога няма? Няўжо ня прышлі на ўсяночную?

Слухае поп, як доўгай, маруднаю хваляй плавае недзе ў цямноце гук адзінотнага звону. І здаецца, што плача ён, стогне. Здаецца, галосіць адчайным, тужлівым голасам, кліча кагось на ратунак.

А як растае, траціцца ў ночы зморany голас тужлівага звону, у пакой сьмела ўлятаюць буяныя гукі оркестру. Дражняць, сьмяюцца задзірліва, напамінаюць аб маладым, шумлівым жыцьці комсамольскага клюбу.

Поп хоча злавацца, хоча ненавідзець лютай нянавісьцю, пасылаць туды, да тых, праклёны страшэнныя. Але злосьці няма. Бо няма моцы злаваць, млявасьць зьвязала—цягучая, ліпкая. Спавіла ўсяго—крануцца ня хочацца, ня хочацца думаць.

Поп заплюшчыў вочы, цалком аддаўся спакою.

Прыемна замуцілася ў галаве, лёгкім туманам ахінуліся думкі...

. . . . . . . . . . . .

Раптам нехта паляпаў у дзьверы.

— Увайдзіце!

Увайшоў стараста, унёс з сабой знаёмы пах ладану й воску. Поп ня ўстаў, толькі твар абярнуў да яго.

— Ну, што, Кірыла?

Стараста чамусь падышоў блізка-блізка. Прыгнуўся, нахіліў свой твар, працяты нейкай таёмнай радасьцю. І чамусьці маўчаў. Толькі ўсьміхаўся хітрай, здаволенай усьмешкай, дражніў таёмным падміргваньнем.

Папа нецярплівасьць забрала.

— Ну, што? Гавары...

— Бацюшка... Усё добра... Народу—поўная цэрква... ніколі ня было столькі многа... А яны... яны...

Поп зразумеў. Чуў, як нутро растае ў захапленьні шалёным, як нешта хвалюецца ў ім, падступае да горла, так, што цяжка гаварыць, бо сьціскаецца горла хітра-здаволеным сьмехам, такім, як у старасты.

— Ну... ну... што?..

Стараста яшчэ бліжэй прыхіліўся, хітра міргае вокам прыплюшчаным.

— Яны... свой вечар... спынілі... хе-хе... Няма анікогачка... Хоць-бы адзін чалавек...

Поп борзда ўзьняўся і стаў апранацца. Больш ня пытаўся нічога. Не хацеў нават, каб стараста далей гаварыў. Баяўся, каб не разьбіўся, каб ня зьнік гэты настрой, гэтая радасьць, што падмывае запець, закрычаць ва ўсю глотку, заскакаць па пакою.

— Хадзем, Кірыла. Будзем пачынаць усяночную...

Вышлі на вуліцу, пашлі.

Чорная, мяккая ноч атуліла сьвяточным спакоем, лашчыць твар ледзь чутным павевам кволага ветрыку. З мякка-глыбокага неба прыветна плюскаюць зоркі, ласкава ўсьміхаюцца.

Добра так, радасна...

А звон разьлівае наўкола сталёвую гулкую песьню, шырыцца, гойсае сьмела ў маўклівай, уважлівай цемры.

Моцны, пабедны звон...

Каля цэрквы—сьвяточны тлум. Вуліца коньмі застаўлена—не прайсьці. На вазох дзе-нідзе плямяцца цёмныя постаці. Чуваць гутарка, часам узмывы маладога задорнага рогату.

А на цьвінтары поўна людзей. Ходзяць гурмамі, поўняць ноч дружным гоманам.

Поп увайшоў у цэркву. Зважна прайшоў паміж густога натоўпу. Прыемна было, што ўсе раступіліся, што ўсе пазіралі з сур'ёзнай пакорнай увагай.

І яшчэ больш ахапіла здаволеньне. У думках няслося, круцілася:

— Наша пабеда... Наша сьвята...

І зноў падмывала запець, закрычаць, каб выліць з душы шалёную радасьць.

Увайшоў у алтар, напрануў сьвяточныя рызы. На цэркве замятушыліся, забразгалі мэталічнымі пратэсамі, да крэснага ходу пачалі ладзіцца.

Поп счакаў яшчэ момант і адчыніў царскія вароты. Зірнуў на царкву.

Сотні рук замітусіліся суччам нязграбным, сотні галоў схіліліся ў шчырых паклонах.

Поп зірнуў на пярэдніх, каб знайсьці знаёмыя твары сталых, паважных сялян.

Зірнуў і... асалапеў. Проста яму ў твар глядзелі вострыя, задорныя вочы маладых хлапцоў-комсамольцаў. У іх гарэла ўсьмешка, яны ўпарта сьвідравалі наскрозь, пралязалі, здаецца, у самае нутро і поўнілі сэрца трывогай.

— Што ім тут трэба? Чаго пазьбіраліся?..

А трывога расла, пераходзіла ў востры спалох. Баяўся выйсьці на царкву, баяўся зірнуць на людзей. Чуў, што там расьце замятуха, што чакаюць яго, чакаюць пачатку,— а выйсьці ня важыўся. Бо загарадзілі дарогу ўпартыя, насьмешлівыя вочы, коляць так прыкра, балюча.

Ён азірнуўся вакол, быццам падмогі шукаючы.

Пуста. Нікога няма ў алтары. Усе там, чакаюць яго. А ён баіцца выйсьці, баіцца гэтых вачэй.

— І што гэта са мной? Чаго мне так страшна? Што-ж яны зробяць?..

А на царкве ўжо гул разьліваецца—нездаволены, злосны. Нехта крыкнуў:

— Час пачынаць! Дакуль будзем чакаць?..

І ад гэтага голасу папу яшчэ больш стала страшна. Схаваўся за царскія дзьверы і пазіраў палахліва, што дзеецца ў цэркве.

А там рабілася нешта страшэннае, дзіўнае. Мітусіўся народ, пераліваўся блытанымі хвалямі, буяніў злосьнай гаворкай.

Раптам ускочыў адзін на амбон і пачаў гаварыць горача, гнеўна:

— Даволі ўжо ждаць! Годзе ўжо. Ня хоча—ня трэба... абыйдземся і без яго... Хадзем усе ў клюб. Там музыка грае... А ён няхай тут адзін астаецца.

Народ адказаў дружным гудам:

— Хадзем!.. Годзе!.. Далоў яго!..

Потым ускочыў другі, закрычаў:

— Навошта ў клюб! Мы й тут можам. Мы тут сабе клюб наладзім... Верна, таварышы?..

— Правільна! Верна! Зараз-жа... Тут...

І поп, трасучыся глядзеў, як здымаюць іконы са сьцен, як вешаюць портрэты нялюбыя, страшныя, як гадзюкамі распаўзаюцца па сьценах чырвоныя лёзунгі. І ўсё пакрывае ўзрушаны гоман, перамешаны з вясёлымі дружнымі сьпевамі.

Тросься поп і чакаў, чым кончыцца ўсё. А як убачыў, што да алтара пасуваюцца бурнай навалай, што бліжэй і бліжэй да яго пагроза страшэнная, кінуўся ўгрунь за прастол і паваліўся на калені перад іконай.

Маліцца хацеў, ды ня мог. На думкі ня

йшлі словы малітвы. А нейкі голас крычаў прарэзьліва, востра:

— Ня верыш! Ня верыш! Сам ня верыш! Хлусіш!..

Тады сеў на падлогу, закрыў твар рукамі і стуліўся, што малое дзіцё.

— Няхай будзе, што будзе!..

І чуе поп, што прышлі ўжо ў алтар, што ўжо тупаюць блізка.

Да яго падышлі, штурхаюць у бок, крычаць на вуха на самае:

— Бацюшка! Бацюшка! Бацюшка!..

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

І поп прачнуўся. Убачыў над сабой схілены твар старасты, які ціха, асьцярожна гукаў яго:

— Бацюшка, бацюшка...

Поп сеў на ложку, азірнуўся.

У вокны шэра-сталёвым вокам зазіраў ужо дзень, вымятаў з пакою начныя змрокі. На сьцяне зморана, млява цікаў гадзіньнік.

Стараста адышоўся ўжо, стаяў ля дзьвярэй. Чакаў, пэўна, пакуль прачухаецца поп.

— Ну, што, Кірыла?

— Ды што-ж, бацюшка... Ня прышоў у цэркву ніхто. І старыя й малыя—усе ў клюб. Яшчэ й цяпер гуляюць тамака.

Поп успомніў, што бачыў у сьне. Выцер халодны пот на твары, матнуў панура рукой.

— Ат... Няхай сабе...

---

# ЗЬМЕСТ.

# КНІЖНІЦА „МАЛАДНЯК“

ЦБ Усебеларускага Аб‘яднаньня поэтаў і пісьменьнікаў „Маладняк“ выдае літаратурна-мастацкія зборнікі (вершы, апавяданьні, крытыка) разьмерам ад аднаго да двух друкаваных аркушоў.

Зборнікі прадаюцца ўва ўсіх лепшых кнігарнях і кіосках Беларусі, а таксама на галоўных станцыях чыгунак, якія праходзяць цераз БССР.

У траўні месяцы 1925 г. вышлі:

1. **Міхась Чарот**—Выбраныя вершы.
2. **Ул. Дубоўка**—Там, дзе кіпарысы *(поэма)*.
3. **Кузьма Чорны**—Апавяданьні.
4. **Адам Бабарэка**—Апавяданьні.
5. **Язэп Пушча**—Раніца рыкае *(вершы)*.
6. **Крапіва**—Асьцё (*сатыры*).
7. **Маладняк — Янку Купалу** (юбілейны зборнік).

У чэрвені выйдзе 7 наступных зборнікаў, а ў ліпені—6.

